Народная Воля
http://www.nv-online.info
30 КРАСАВІКА 2013 г.

ПУЛЬС ПЛАНЕТЫ

## Евросоюз озабочен ситуацией вокруг «Голоса»

Верховный представитель ЕС по внешней политике и безопасности **Кэтрин Эштон** выразила глубокую обеспокоенность решением властей России признать некоммерческую организацию "Голос", следящую за нарушениями на выборах, "иностранным агентом". Об этом Эштон заявила в распространенном в воскресенье, 28 апреля, коммюнике. *"Деятельность "Голоса" по обеспечению честных и свободных выборов в России отвечает взятым Россией на себя обязательствам, в том числе по линии Совета Европы и ОБСЕ",* — говорится в сообщении.

Ранее свою обеспокоенность ситуацией вокруг "Голоса" выразил и Вашингтон. *"Мы глубоко обеспокоены тем, что НКО "Голос", занимающаяся мониторингом выборов, признана иностранным агентом и оштрафована на тысячи долларов",* — заявил представитель Госдепартамента США **Патрик Вентрелл** на брифинге для журналистов в Вашингтоне.

## Предвыборная программа «зеленых»

На завершившемся в Берлине съезде партии "Союз-90"/"Зеленые" принята программа к предстоящим в сентябре 2013 года выборам в бундестаг. "Заменим "черно-желтую" коалицию "зелеными" переменами", - провозгласил под аплодисменты 800 делегатов один из лидеров партии **Юрген Триттин.** В своей предвыборной программе "зеленые" поставили акцент на темах экологии, социальных реформ и перераспределения общественных богатств.

В частности, в программу вошло ограничение размера бонусных выплат для менеджеров: теперь бонусы не могут превышать четверти зарплаты и должны быть одобрены на общем собрании акционеров.

Кроме того, намечено введение минимального размера оплаты труда в 8,5 евро в час. "Зеленые" также предлагают повысить размер пособия по безработице до 420 евро в месяц.

## Ограблен дом Волочковой

На северо-востоке Москвы совершено разбойное нападение на дом известной балерины **Анастасии Волочковой.** Трое грабителей в ночь с воскресенья на понедельник ворвались в особняк артистки, расположенный на улице Молокова в районе Лианозово.

В момент ограбления обитатели дома — 7-летняя Ариадна, ее няня Зоя Пасечник, 50-летняя домработница Раиса Зименкова и ее супруг Николай (личный водитель артистки) — спали.

Злоумышленники нанесли удары мужчине и одной из женщин. После этого они связали прислугу, забрали два сейфа и скрылись.

На момент нападения самой балерины дома не было.

## Испытания «Лайнера мечты» прошли успешно

В Японии прошли испытания Boeing-787 Dreamliner с обновленным литий-ионным аккумулятором.

Первый за три месяца полет "Лайнера мечты" завершился успешно. На борту рейса, который вылетел из токийского аэропорта "Нарита" и приземлился там же спустя два часа, находились представители Boeing и All Nippon Airways.

Полеты Boeing-787 были приостановлены в январе 2013 года сначала в Японии, а затем в США и Европе. Причиной такого решения стали несколько нештатных ситуаций, которые возникали из-за перегрева и возгорания аккумуляторов самолетов.

Японские авиакомпании All Nippon Airways и Japan Airlines являются крупнейшими покупателями "Лайнеров мечты": первая эксплуатирует 17 самолетов, вторая — семь. Как отмечает агентство, чтобы испытать все японские Boeing-787 с обновленными аккумуляторами, потребуется по меньшей мере месяц.

## Иракские власти закрыли 10 телеканалов

Они отозвали лицензии телеканала "Аль-Джазира" и девяти других спутниковых телеканалов, обвинив их в разжигании межконфессиональной вражды.

Решение, о котором было объявлено в воскресенье 28 апреля, вступило в силу незамедлительно. Тем временем власти Багдада пытаются подавить беспорядки, вызванные столкновениями с протестующими суннитами на прошлой неделе. В результате начавшихся столкновений погибли по меньшей мере 170 человек. В своем заявлении представители базирующегося в Катаре телеканала "Аль-Джазира" отметили, что поражены решением иракских властей, и подчеркнули, что телеканал отражает позиции всех сторон конфликта в Ираке.

АСОБА

# Бацька нямецкага «эканамічнага цуду»



Пасля Другой сусветнай вайны Германія была разбурана амаль таксама як і Беларусь. Але яна хутка залячыла раны і стала адной з квітнеючых краін. Яе дасягненні былі названы эканамічным цудам. Беларусы ўсё яшчэ мараць аб такім узроўні жыцця, як у немцаў.

Чаму? У многім таму, што ў той складаны і цяжкі час у немцаў аказаўся таленавіты лідар. Яго імя — Конрад Адэнаўэр. Ён лічыцца палітыкам, які падняў Нямеччыну з руін і ператварыў у адну з самых квітнеючых краін Еўропы і свету.

Як жа яму гэта ўдалося?

Нарадзіўся Адэнаўэр у Кёльне ў 1876 годзе ў сям'і сакратара кёльнскага суда. Сям'я была небагатай, і Конрад павінен быў вучыцца і адначасова працаваць.

Жыццё не песціла яго. У 1916 годзе ад раку памерла яго жонка, а потым ён сам трапіў у аўтамабільную аварыю, у выніку чаго вельмі моцна пашкодзіў косці і мышцы твару. Таму яго твар пасля аварыі і аперацый выглядаў нібыта каменны, без ніякіх эмоцый.

Ён рана праявіў арганізатарскія здольнасці. Падчас Першай сусветнай вайны Адэнаўэр паказаў сябе таленавітым адміністратарам. Ён разумеў, што Германія прайграе вайну. Яшчэ калі ішлі ваенныя дзеянні, ён загадаў пачаць павялічваць запасы ежы, найперш круп. Пасля вайны і падчас акупацыі жыхары Кёльна не галадалі. Яму некалькі разоў прапаноўвалі стаць рэйхсканцлерам, бо на фоне палітычнага і эканамічнага хаосу ў Нямеччыне Кёльн не толькі захаваў стабільнасць, але і развіваўся. Адэнаўэр адмаўляўся ад гэтых прапаноў.

Пасля прыходу да ўлады нацыстаў яго палітычная кар'ера спынілася. Калі ў 1933 годзе Гітлер ўжо як канцлер наведаў Кёльн, Адэнаўэр не паехаў яго сустракаць і забараніў вывешваць сцягі са свастыкай. Гітлер быў проста раз'юшаны паводзінамі бургамістра. У гэтым жа годзе супраць Адэнаўэра распачаўся судовы працэс, яго дом быў канфіскаваны, а ён з жонкай на працягу года вымушаны быў хавацца і шукаць прытулку ў розных месцах.

Пасля замаху на Гітлера ў 1944 годзе Адэнаўэр і яго жонка былі арыштаваны. Былы канцлер апынуўся ў канцлагеры, а потым у вязніцы гестапа. Што цікава, тры старэйшыя сыны яго ў той жа час ваявалі на Усходнім фронце.

Пасля заканчэння вайны Адэнаўэр быў прызначаны амерыканцамі бургамістрам Кёльна. Ён таксама знаходзіўся ў так званым "белым спісе" на пасаду канцлера Германіі. У 1949 годзе ён быў абраны канцлерам ФРГ. Тады яму споўнілася 73 гады.

Тым не менш ён з вялікім энтузіязмам пачаў пабудову "Новай Германіі ў Новай Еўропе". На пасадзе канцлера Адэнаўэр заставаўся 14 год.

Паводле стратэгіі Адэнаўэра, гаспадарка павінна быць арыентавана на чалавека, бо дабрабыт асобы гарантуе дабрабыт дзяржавы. Ён быў супраць моцнай апекі дзяржавы над чалавекам. Выступаў за тое, каб даць шанец кожнаму для праяўлення ініцыятывы ў любой галіне жыцця. Адэнаўэр пераконваў, што канцэнтрацыя ўлады ў руках дзяржавы небяспечна для яе, бо гэта абмяжоўвае свабоду людзей. Між тым свабода ўзнімае актыўнасць творцаў. Таму трэба абмяжоўваць уладу дзяржавы.

Ён узяўся павялічваць долю людзей працы ў "агульным пірагу", праводзіць дэпалітызацыю працоўных шляхам павелічэння ўласнасці ў наёмных работнікаў, ствараць варты ўзровень жыцця не толькі для працаўнікоў, але і для беспрацоўных і непрацаздольных. Крокам для гэтага стала будаўніцтва танных дамоў і кватэр для працоўных за кошт бюджэту. Наступным крокам было рашэнне аб павелічэнні пенсій, страхаванне ад хвароб і матэрыяльная дапамога на дзяцей. Адначасова падтрымлівалася зберажэнне сродкаў. З гэтай мэтай павышаліся працэнтныя стаўкі па ўкладах у банках, выплачваліся прэміі за зберажэнні. Была праведзена фінансавая рэформа, у выніку якой у краіне з'явілася цвёрдая валюта без шматлікіх нулёў. Выпускаліся "народныя акцыі" прадпрыемстваў, якія прадаваліся рабочым па льготнай цане. Так былі часткова прыватызаваны буйнейшыя заводы.

Такім чынам працаўнікі завалодвалі маёмасцю і былі зацікаўлены ў добрых выніках дзейнасці сваіх прадпрыемстваў. Адэнаўэр лічыў, што галоўнае — павышэнне ўзроўню жыцця працаўнікоў. Чым багацей грамадзяне — тым багацей краіна. Бо ўласнікі зацікаўлены ў напружанай творчай працы. Так і атрымалася. У 1953 годзе валавы ўнутраны прадукт Заходняй Германіі павялічыўся ў параўнанні з 1948 годам амаль на 50 працэнтаў, безработных таксама паменела — стала толькі 6 працэнтаў, зарплата вырасла на 80 працэнтаў.

Дасягненні Германіі сталі называць эканамічным цудам. Каб ачысціць добрае імя Нямеччыны, Адэнаўэр рабіў усё магчымае для кампенсацыі пакут ахвяр Халакосту. Нямеччына абяцала выплаціць 1,5 млрд марак рэпарацый.

Ён вельмі актыўна садзейнічаў пабудове аб'яднанай Еўропы. Яго можна лічыць адным з палітыкаў, якія паклалі пачатак існаванню Еўрапейскага Саюза.

Па прычыне сталага ўзросту Адэнаўэр сышоў з пасады канцлера ў 1963 годзе. Яму было 87 год. Памёр Конрад Адэнаўэр ў 1967 годзе.

**Падрыхтаваў да друку Алесь ДРАБЧУК.**

НА СУВЯЗІ — УКРАІНА

## Брусельскі дэсант у Кіеве

*Міністры замежных спраў чатырох еўрапейскіх краін наведалі Украіну. Кіраўнікі дыпламатыі Польшчы, Літвы, Даніі і Нідэрландаў абмяркоўвалі з уладамі Кіева пытанні рэформ, неабходных для заключэння пагаднення аб асацыяцыі паміж Украінай і Еўрапейскім Саюзам.*

Да сярэдзіны чэрвеня еўрапейская супольнасць павінна вырашыць, ці адбудзецца падпісанне дамовы аб асацыяцыі падчас саміту Усходняга партнёрства ў Вільні восенню гэтага года. Асноўная ўмова Бруселя — ажыццяўленне ўкраінскім бокам неабходных рэформ.

Да хутчэйшага правядзення рэформ заклікаў Украіну старшыня Еўрапейскай камісіі Жазэ Барозу і міністр замежных спраў Польшчы Радаслаў Сікорскі. ЕС патрабуе ад украінцаў змен у працы судовай сістэмы. Адносіны паміж Бруселем і Кіевам крыху палепшыліся пасля вызвалення аднаго з прадстаўнікоў украінскай апазіцыі. Аднак у турме застаецца былы прэм'ер-міністр краіны Юлія Цімашэнка. Пакуль не вядома, ці будзе яе вызваленне адной з асноўных умоў заключэння дамовы з ЕС.

О НЕМ ГОВОРЯТ

## Пятилетний гений

*Юный житель американского штата Иллинойс с младенческого возраста не привык терять время понапрасну. Сидя на горшке, он одновременно познавал мир, читая научные книги, и к пятилетнему возрасту его уровень IQ превысил показатели многих одаренных взрослых, передает ABC.*

Пятилетний Гус Дорман проявил свои незаурядные способности в возрасте полутора лет. Сидя на горшке, он брал все, что попадалось ему под руку, — газеты, папины журналы — и читал. Заметив это, отец Роберт стал подкладывать в стопку "чтива" для ребенка периодическую таблицу химических элементов и географические карты. Результат последовал мгновенно: через некоторое время ребенок знал наизусть все химические элементы, расположение стран на карте мира и их столицы. *"Иногда мы с ним спорим, например, какая столица у штата Аляска",* — удивляется отец, который обычно проигрывает подобные споры.

При этом родители Гуса отмечают, что до последнего момента не осознавали, как им повезло с сыном, так как были уверены, что так себя ведут все дети. Глаза им открыли друзья, вместе с детьми которых они пошли в поход, когда маленькому вундеркинду было четыре года. *"Гус прочитал надпись на одежде нашего друга. И они были удивлены, так как их пятилетняя дочь до сих пор не знала алфавита",* — вспоминает Дорман.

Недавно Дорманы решили протестировать свое чадо на уровень интеллекта. Выполнив тест Стэнфорда—Бине, он ответил верно на 99% вопросов, набрав 147 баллов, пишет Suburban Journals.

Это при том, что для того, чтобы вступить в список международного *"общества гениев"* Mensa, объединяющего самых умных людей мира, необходимо показать результат в 132 балла. Всего Mensa объединяет более 110 тысяч человек из примерно 100 стран. Самому юному его члену было два года и четыре месяца, когда он попал в клуб. Для сравнения: средний показатель для взрослого человека составляет 100 баллов и 130 — для особо одаренных людей.

Однако юному члену Mensa Гусу Дорману в школе приходится нелегко. *"Ему там рассказывают слишком простые вещи. Он не знает, куда себя деть от скуки, когда его одноклассников учат алфавиту",* — рассказывает отец. Неудивительно, ведь по словам родителя, сейчас Гуса занимают более серьезные вещи — астрофизика и черные дыры.

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

## *Взятки брал президент*

*Боснийский суд санкционировал арест президента Федерации Боснии и Герцеговины **Живко Будимира** и четверых человек из его окружения сроком на 30 суток с целью проведения расследования по делу о коррупции.*

Полиция задержала Будимира в его рабочем кабинете в здании президиума в центре Сараево. Политик подозревается в принятии незаконных решений о помиловании осужденных и взяточничестве. За последний год глава автономии помиловал 96 человек. Среди амнистированных было 35 убийц, один насильник, а также пять человек, осужденных за производство и незаконный оборот наркотиков.

По сведениям газеты Dnevni avaz, в сейфе в кабинете Будимира обнаружена крупная сумма денег, происхождение которых он не смог объяснить. Полиция располагает записью телефонных разговоров с участием президента, во время которых речь шла о вознаграждении. Утверждается, что "прощение" одного года тюрьмы у Будимира стоило около 30 тысяч боснийских марок (15 тысяч евро).



## *Встретились все здравствующие бывшие президенты США*

В Южном методистском университете в Далласе открылись библиотека и музей имени 43-го президента США Джорджа Буша-младшего. На открытие приехали Обама и все здравствующие бывшие президенты США с супругами.

**На фото:** *Барак Обама и Барбара Буш.*

ВЗГЛЯД В БУДУЩЕЕ

## В 2023 году будет совсем иной энергетический мир

*Если бы можно было, как Рип Ван Винкль, персонаж новеллы Вашингтона Ирвинга, проспавший много лет, закрыть глаза, а открыть их в 2023 году, вы бы увидели совершенно другой энергетический мир, уверяет Клиффорд Краусс в The New York Times.*

Электромобили могут получить популярность. Солнечная энергия может оказаться достаточно дешевой для того, чтобы миллионы семей и предприятий установили у себя солнечные батареи. Ископаемые виды топлива, возможно, будут преобладать, но большинство грузовиков и многие поезда, скорее всего, будут ходить на природном газе, а не на дизельном топливе, которое сильнее загрязняет окружающую среду. При этом Соединенные Штаты могут стать крупным экспортером газа.

Ничто из этого не представляется невероятным, говорится в статье. Посмотрите, какие изменения произошли за последние 10 лет! В 2003 году считалось, что американские месторождения природного газа иссякают, предприниматели начали инвестировать в дорогостоящие терминалы по импорту газа, а отнюдь не по экспорту, указывает автор. Американская нефтяная промышленность шла на спад.

*"Проснувшийся сегодня Рип увидел бы удивительную метаморфозу: страна стоит на пути к энергетической независимости, что показалось бы нереалистичным всего десять лет назад. Нефтяные месторождения в Северной Дакоте и Техасе, недавно оказавшиеся изобильными, увеличивают внутреннюю добычу до уровней, невиданных на протяжении поколения. Соединенные Штаты вдруг стали чистым экспортером бензина и дизельного топлива и, кроме того, ищут новые рынки для сбыта природного газа: новые технологии бурения позволили внутреннему производству вырасти за последние пять лет, вызвав избыток и падение цен",* — пишет Клиффорд Краусс.

*"В том, что касается энергии, правила игры таковы: ожидай неожиданного,* — сказал Дэниел Ергин, энергетический аналитик. *— В исследования, разработки и инновации по всему энергетическому спектру вкладывается столько усилий, что через десять лет мы увидим и другие принципиальные изменения".*

Глубокие перемены могут происходить уже сейчас, продолжает автор статьи. Новые стандарты экономии топлива, как ожидается, приведут к 2025 году к удвоению расстояния, которое покрывает автомобиль, используя галлон топлива. Ученые разрабатывают более совершенные способы хранения электроэнергии, чтобы повысить функциональность ветровых турбин и солнечных энергетических установок в моменты, когда ветер не дует и солнце не светит. Япония, не богатая источниками энергии, только что изобрела способ извлечения природного газа из гидрата метана со дна моря. Это открытие может распахнуть двери к новому огромному источнику газа для всего мира, поясняет Краусс.

У СОСЕДЕЙ

## *Не стали искать счастья на Западе. Нашли его дома, в Литве*

Братья Кристийонас, Аугустинас и Доминикас Визбарас, основатели предприятия Brolis, изготавливающего мощные микропроцессоры при помощи лазерной техники, не стали искать счастья на Западе и остались на родине в Литве, поскольку получили поддержку правительства.

По словам Августинаса Визбараса, ни в какой другой стране им бы не удалось развить столь высокую скорость роста. Братья обдумывали возможности создания нового бизнеса в США, Германии, Ирландии и Литве; по словам Доминикаса, в США много молодых предпринимателей с новыми идеями, и приходится сильнее конкурировать за внимание инвесторов, а в Германии спонсоры не хотят вкладываться в рисковые предприятия.

В Литве же, по словам братьев-предпринимателей, хороший деловой климат, профессиональная инфраструктура и достаточно рискового капитала. "Однако, в отличие от Германии и США, капитал в Литве в основном происходит не из частных фондов или пенсионных касс. В данный момент государство выделило на такие идеи, как у братьев Визбарас, около 75 млн евро. В следующем году этот объем будет увеличен до 125 млн евро", — пишет автор статьи. По словам бывшего заместителя министра финансов и нынешнего заместителя министра иностранных дел Роланда Кристюнаса, большая часть этих средств берется из денег, выделенных ЕС.

По данным немецкого издания "Die Zeit", "помощь ЕС ускоряет модернизацию литовской экономики. Так, вокруг Вильнюса вырос кластер лазерной оптики, в который входят около 15 предприятий и два НИИ. В нем работают от 400 до 500 человек". По прогнозам, введение евро в 2015 году даст экономике дополнительный стимул — так же, как в 2004 году сработало вступление в ЕС, пока не начался кризис.

"В 2009 году ВВП упал почти на 15%", — сообщает издание. С тех пор экономика снова начала расти, и сейчас темп ее роста — один из самых быстрых в ЕС. Пока что экономике не удалось достичь докризисных темпов роста, "но не все видят в этом недостаток": по словам менеджера литовского представительства немецкого логистического предприятия Rhenus, до кризиса действовать было тяжело именно из-за "бешеной" скорости роста.

"Расширяются автомобильные и железные дороги. А третий по величине город, Клайпеда, — важный балтийский порт, самый северный порт Европы, свободный ото льда в течение всего года. Там находится одна из двух особых экономических зон, при помощи которых правительство хочет привлечь инвесторов и поддержать молодые фирмы. В первые шесть лет предприятия освобождаются от налогов, 70% инвестиций идут от государства", — пишет Симон Фрост.

По его словам, немцы не очень любят инвестировать в Литву из-за малочисленности населения. Германские предприятия подтверждают, что прямые издержки по оплате труда низкие, а качество продукции — высокое, однако для сооружения заводов с несколькими тысячами сотрудников и высоким объемом производства не хватает квалифицированных работников.

Также, по словам автора, причина нехватки работников заключается в образовательной политике. 47% жителей страны в возрасте от 24 до 29 лет имеют высшее образование, однако с момента распада СССР молодежь стремится за рубеж: в Скандинавские страны, Великобританию, США или Германию. После получения образования в этих странах немногие из них возвращаются на родину.

Однако сейчас, по словам автора, число эмигрантов снижается, а число вернувшихся повышается. Это происходит благодаря программе годичных стажировок в правительстве, низким налоговым ставкам и государственным инвестициям в проекты молодых предпринимателей.




ФОТООКНО

## *«Заряжали» воду, алкоголь...*

В конце 80-х — начале 90-х годов прошлого века советским гражданам предлагали уникальный метод исцеления — через телевизор. "Ясновидящий" и "целитель" **Аллан Чумак** в своих сеансах "заряжал" воду, кремы и другие субстанции, которые зрители раскладывали перед телеэкранами.

Прошло много лет, Чумак давно перестал быть гостем эфира, но воспоминания о магической силе телевизора остались жить в сознании россиян. 25 апреля, когда шла "Прямая линия" с Владимиром Путиным, читатели (с подачи ведущих онлайна) решили "зарядить" воду, алкоголь и бытовые приборы энергетикой главы государства.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
30 КРАСАВІКА 2013 г.

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

*У серыі "Бібліятэка свабоды" выйшла кніга Юрыя Бандажэўскага, пра якую ў турмах ужо ходзяць легенды. Парады вядомага доктара, якому на некаторы час самому давялося стаць арыштантам, занатоўвалі, праслухоўваючы радыёперадачы, потым пераказвалі адзін аднаму, шукалі ў інтэрнэце... І вось кніга "Турма і здароўе", у якой сабраны медыцынскія парады на тэму "Як выжыць у турме", нарэшце ўбачыла свет. Прыводзім урыўкі з яе.*

*Юрый БАНДАЖЭЎСКІ*

# Турма і здароўе

## Адносна парад «народнай зэкаўскай медыцыны»



Ад часу існавання ГУЛАГа зняволеныя практыкуюць правераныя метады аказання самім сабе першаснай дапамогі пры тых ці іншых сімптомах. Яны паходзяць з народнай медыцыны, якой на працягу стагоддзяў карысталіся нашы бабулі і дзядулі. Іх няхітрыя рэцэпты былі свайго роду штуршком для працы абаронных сіл арганізму, каб ён самастойна даў рады той ці іншай хваробе. Сёння імунітэт у нашых суайчыннікаў, тым больш у няволі, аслаблены, і акрыяць удаецца далёка не заўсёды.

Да большасці парад, якія гуляюць па турмах, я стаўлюся скептычна. Кшталту таго, што траўмы і пераломы канечнасцяў можна вылечыць прымочкамі, зубны боль — паласканнем растворам соды, галаўны боль — кампрэсамі... Я праціўнік такіх падыходаў. Неабходна зразумець прычыну захворвання, а гэта можа зрабіць толькі медык. За рознымі, часам нязначнымі, балявымі сімптомамі можа стаяць штосьці сур'ёзнае. Напрыклад, сапраўднай прычынай болю галавы можа быць гіпертанічны крыз. Тут дапамагчы можа толькі ўрач. Інакш будзе адна шкода. Лічу, што трэба дамагацца неабходнай медыцынскай дапамогі ў турэмнай адміністрацыі, як бы складана гэта ні было.

Некаторых набытых у няволі хвароб чамусьці прынята саромецца. Я маю на ўвазе адно з найчасцейшых дэрматалагічных захворванняў — каросту. Хвароба адзначаецца моцным свербам, асабліва ўначы. Прычына каросты — клешч, які пранікае ў верхнія пласты скуры і адкладае там яйкі. Кароста перадаецца праз дотык, агульны ручнік, пасцель. Справіцца з каростай самастойна немагчыма. Яе распаўсюднік — клешч — настолькі малы, што голым вокам яго не ўгледзець. Адкладаючы яйкі, самка кляшча прасоўваецца ўнутры скуры. Сляды яе хадоў убачыць можна: яны карацэнькія, просталінейныя, як нітачкі ці каціныя драпіны. На скуры з'яўляюцца пухіры, і пачынаецца страшэнны сверб. Расчухваючы скуру, чалавек толькі ўзмацняе хваробу. Не трэба маўчаць, што вы захварэлі на каросту. Лечыцца яна проста — адмысловымі мазямі або растворамі. Чым раней звярнуцца ў санчасць, тым хутчэй можна пазбавіцца ад гэтай непрыемнай хваробы і да таго ж не заразіць тых, хто побач.

Сярод народных турэмных парад, ёсць, аднак, тыя, якія падаюцца мне цікавымі, і я не стаў бы цалкам іх ігнараваць. Тым больш што пачынаць лячыцца заўсёды трэба ад простага. Калі ж гэта не дапамагае, то зняволены мусіць абавязкова звярнуцца да фельчара ці ўрача.

Напрыклад, грып. Звычайна, як і па ўсёй краіне, напрыканцы восені — на пачатку зімы ў беларускіх вязніцах пачынаецца эпідэмія грыпу. Каб не падхапіць заразу, дзеля прафілактыкі лепш за ўсё шторанцы абціраецца мокрым ручніком. Карысна таксама абціраць скроні кругавымі рухамі пальцаў, а нос — рухамі ад ноздры да пераносся. Пасля гэтага можна рабіць абціранне кругавымі рухамі за мочкамі вушэй.

Часцей за ўсё грып пачынаецца з высокай тэмпературы, амаль без сімптомаў. У некаторых людзей узнікаюць болі ў жываце, ламота ў буйных суставах, боль пры дотыку да скуры. Адчуўшы гэтыя сімптомы, трэба звярнуцца да ўрача.

Вельмі часта ў няволі здараюцца прастуды. Яны пачынаюцца з катару, кашлю, слёзацячэння. Можа балець і горла. Найчасцей прастуда ўзнікае пасля пераахаладжэння. Можна прамываць нос і насаглотку гарбатай або закапваць у нос сок цыбулі, разведзены напалову з гатаванай вадой. Трэба, аднак, памятаць, што чысты, неразведзены сок цыбулі можа спаліць слізістую абалонку насаглоткі.

Пры густым катары рэкамендуецца закласці ў нос кавалачак долькі часнаку і дыхаць ім. А пры вірусной інфекцыі, калі з носа капае кожную секунду, трэба прамываць нос разведзеным сокам часнаку: закапваць па цэлай піпетцы або заліць гэты сок у нос чайнай лыжачкай.

Пры прастудных захворваннях часам п'юць моцную гарбату са згушчаным або цэльным малаком (калі арганізм прымае малако). Гэта дадатковае сілкаванне. Гарбата танізуе, а малако — бялковы прадукт, у ім ёсць і кальцый. Гэта падтрымлівае сілы і паляпшае самаадчуванне.

Гарбата з малаком (так званая англійская) — таксама добры гіпатэнзіўны сродак. Яе можна ўжываць, калі павышаецца артэрыяльны ціск.

Як урач дадам, што прычынай гэтых прастудных, інфекцыйных і анкалагічных захворванняў (іх таксама нямала ў няволі) з'яўляецца зніжэнне імунітэту. Без сумневу, свой уплыў на працэс аказвае тая стрэсавая сітуацыя, у якой стала знаходзяцца арыштанты.

Лічу, што ва ўмовах турмы неабходна рэгулярнае ўжыванне вітамінных прэпаратаў, найперш вітаміну С, а таксама і іншых вода- і тлушчараспушчальных вітамінаў. Сыходзячы з таго, што зняволеныя пазбаўленыя магчымасці рэгулярна атрымліваць садавіну і гародніну, важна забяспечваць іх вітамінамі ў таблетаваных формах.

Што варта зразумець, калі хочаш заставацца здаровым у турме: усе праблемы абароны арганізму чалавека ідуць ад недахопу энергіі. Абарона заключаецца ў вывядзенні чужародных агентаў з арганізму, іх абясшкоджванні, перашкодзе іх пранікненню ўнутр клеткі і як вынік — парушэнню імі метабалічных працэсаў. Для выдалення гэтых агентаў патрабуецца энергія. Калі яе мала, узнікаюць засмечаныя клеткі ўсяго арганізму ды інтаксікацыя, іншымі словамі, пашкоджанне клетачных структур.

### ДАСЬЕ

### Юрый Іванавіч Бандажэўскі

Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Гродзенскай вобласці. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны медінстытут. У 31 год стаў самым маладым у СССР доктарам медыцыны (1987 год), а ў 33 — прафесарам. У 1990-м заснаваў і ўзначаліў Гомельскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт. Вядомы даследаваннямі на тэму ўплыву на здароўе чалавека малых доз радыяцыі. Аўтар больш як 240 навуковых прац.

Быў арыштаваны ў 1999 годзе. У 2001 прызнаны вінаватым у атрыманні хабару ад студэнтаў і асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі. Праваабарончая арганізацыя "Міжнародная амністыя" прызнала яго вязнем сумлення, палічыўшы, што Бандажэўскага пасадзілі за крытыку дзеянняў беларускіх улад па ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. У 2001 годзе Бандажэўскі стаў 25-м уладальнікам Пашпарта волі, які дае права выбіраць у якасці месца жыхарства любую краіну Еўропы. Пасля вызвалення па амністыі з беларускай турмы 5 жніўня 2005 года жыве ў Францыі.

## Асноўныя палажэнні сістэмы трэнінгу ўпэўненасці

*1.Развіццё і захаванне ўнутранага стану ўпэўненасці.*

*2.Пастаноўка "гарсэта ўпэўненасці (упэўнены позірк, упэўненая постаць, упэўненыя манеры, упэўненая хада, упэўнены голас).*

*3.Трэніроўка мадэляў упэўненых паводзін (як прасіць, каб не адмовілі, трымаць псіхалагічны ўдар, умець, калі трэба, гаварыць упэўнена, умець упэўнена распавядаць пра сябе).*

*4.Прыняцце жыццёвых правіл упэўненага ў сабе чалавека.*

*У працэсе трэнінгу ўпэўненасці ў псіхіцы і паводзінах чалавека адбываюцца магутныя трансфармацыі.*

Вось некаторыя псіхатэхнічныя прыёмы павышэння ўнутранай упэўненасці ў сабе.

*Узгадайце моманты, калі вы адчувалі максімальную ўпэўненасць у сабе. Узгадайце момант, калі вы адчулі сябе героем. Яшчэ раз эмацыянальна ярка перажывіце яго. Адзначце апорныя сімптомы вашай упэўненасці.*

*Для замацавання вопыту можна на запясце левай рукі надзець медыцынскую гумку. Цяпер, паўтараючы апісаную вышэй методыку і адчуўшы прыліў няўпэўненасці, трэба адцягнуць і рэзка адпусціць гумку, "заякарыўшы" няўпэўненасць болевым адчуваннем. Боль яе блакіруе. А выклікаўшы ў сабе стан упэўненасці, трэба падмацаваць яго станоўчай эмоцыяй — напрыклад, выпіць кубак гарбаты. Пастарайцеся ўвайсці ў ролю чалавека, якім вы захапляліся ці захапляецеся. Можна ўзгадаць герояў кніг або кінафільмаў. Можна стварыць зводны вобраз ідэальнага героя — такога, якім бы вы хацелі быць у жыцці. Уявіце яго яскрава, ужывіцеся ў ягоны характар, звычкі. Урэшце, зліцеся з ім у адно.*

*Перапішыце ў сабе ў галаве фразу "Я не ўпэўнены, што гэта ў мяне атрымаецца" на фразу "Я ўпэўнены, што спраўлюся з гэтым, я хачу гэтага, я магу гэта зрабіць, я ўжо раблю гэта".*

## Каноны ўпэўненага стану:

*1.Гуляйце паводле сваіх правіл.*

*2.Не апраўдвайцеся.*

*3.Не бойцеся прасіць.*

*4.Памятайце: вы, як і ўсе людзі, маеце права на памылку.*

*5.Імкніцеся да ажыццяўлення сваіх жаданняў.*

*6.Не бойцеся гаварыць голасна і цвёрда, калі гэта неабходна, але не ўпадайце пры гэтым у гнеў, захоўвайце спакой.*

*7.Ніколі не паказвайце, што вы баіцеся, бянтэжыцеся, разгубіліся.*

*8.Прывучайце іншых мець з вамі справу так, як вы хочаце.*

*9.Часцей усміхайцеся. Усмешка — прыкмета ўпэўненага ў сабе чалавека.*

Змагацца з сітуацыяй чалавеку вельмі дапамагае тэхніка мабілізацыі ўсіх сіл і ўздыму баявога духу. Псіхатэрапеўт Вагін называе гэта станам актыўнага баявога трансу. У гэтым стане адбываецца рэзкая змена актыўнасці кары і падкоркі галаўнога мозгу. Чалавек "абуджаецца". Яго рэсурсныя станы ўключаюцца ў працу. Каб дасягнуць гэтага, патрэбна адпаведная падрыхтоўка.

*Заплюшчыце вочы і сканцэнтруйце ўвагу на дыханні. Адчуйце, як вы дыхаеце ўсёй паверхняй цела. З кожным удыхам і выдыхам ваша цела напаўняецца сілай і спакоем прыроды — акіяна, зямлі, неба. З кожным удыхам цела павялічваецца ў аб'ёме — спачатку вы запаўняеце сабою пакой, потым — горад і нарэшце дасягаеце памераў Сусвету. Чыстае блакітнае святло запаўняе кожную клетачку вашага неабсяжнага цела — святло асалоды і спакою. Вам ужо не вядомы страх. Свет становіцца ўсяго толькі працягам вашага "я".*

## Пазбаўленне ад страху і іншыя псіхатэхнікі




Я рыхтаваў сябе на поўны турэмны тэрмін (восем гадоў). Таму і звярнуўся да псіхатэхнік: у тых умовах, як нідзе, патрэбны сталы кантроль уласнага псіхалагічнага стану.

У большасці людзей, якія трапляюць за краты, у якасці вострай рэакцыі на стрэс узнікаюць характэрныя псіхічныя наступствы. Перадусім гэта паніжаны ўвесь час настрой, млявасць, апатыя, эмацыянальная абыякавасць. Знікае цікавасць да навакольнай рэчаіснасці, жаданне атрымліваць задавальненне, імкненне пазнаваць новае, нязведанае. Людзі пазбягаюць вялікіх кампаній, аддаюць перавагу адзіноце. Адрозна ад прыведзеных вышэй практыкаванняў энергетычнага трэнінгу, псіхатэхнікі не абавязкова выкарыстоўваць цалкам — можна выбраць тое, што падабаецца.

Для таго, каб захаваць сябе псіхічна, вельмі карыснымі і дзейснымі, на мой погляд, ёсць псіхатэхнікі, распрацаваныя расійскім урачом-псіхатэрапеўтам, сексапатолагам, спецыялістам у галіне ірацыянальнай псіхалогіі Ігарам Вагіным (И.Вагин. Выиграй у судьбы в рулетку, 2001). Яго кнігу я знайшоў у турэмнай бібліятэцы. З дазволу аўтара прыводжу яго псіхатэхнікі ў маёй сістэме выжывання. Лічу сваім абавязкам пазнаёміць з імі тых зняволеных, якія імкнуцца выжыць у вязніцы не толькі фізічна, але і маральна.

## Перамагчы страх

Перш за ўсё неабходна перамагчы страх. Пачуццё страху ўзнікае практычна ў кожнага чалавека, які ўпершыню сутыкнуўся з сітуацыяй пазбаўлення волі. Ад яго немагчыма пазбавіцца проста так. Іншая справа, што людзей у такім стане можна падзяліць на дзве групы.

Да першай групы варта аднесці асоб, якія яшчэ ў дзяцінстве атрымалі ўнікальны досвед і навучыліся змяншаць свой страх. Бацькі і блізкае ім атачэнне заахвочвалі іх пераадольваць страх і трывогу. Па меры росту і развіцця гэтыя людзі назапашвалі і ўдасканальвалі навыкі ўнутранай і знешняй працы са страхам.

Асобы, якія ўваходзяць у другую групу, не атрымалі ў дзяцінстве або юнацтве ўнікальнага досведу барацьбы са страхам. Усё жыццё яны імкнуліся ўхіліцца ад сітуацый, звязаных з пераадоленнем страху, замест таго каб паводзіць сябе актыўна, змагацца з гэтым пачуццём і дамагацца сваіх мэт. Такім людзям псіхалагічны трэнінг асабліва неабходны. Ім трэба здабыць упэўненасць, жаданне рызыкаваць і пераадольваць перашкоды.

*Але спачатку паспрабуем адказаць на пытанне: што ж такое страх?*

Гэта непрыемнае адчуванне, быццам нас нешта душыць, абмяжоўвае нашу свабоду, прымушае нас быць ахвярай нейкіх сітуацый і акалічнасцяў. Страх — гэта стан малой смерці.

*Што адчувае чалавек падчас страху?*

Цялесныя адчуванні — няспыннае трымценне, слабасць ва ўсім целе, скаванасць рухаў, ватныя ногі, нерытмічнае дыханне, часцейшае сэрцабіцце, халодны пот або раптоўная гарачка, слабы голас або ўвогуле яго страта, камяк у горле, "тунэльны" зрок — бачыш толькі тое, што перад табой.

Эмоцыі — разгубленасць і бездапаможнасць, варожае ўспрыманне свету, жах, трывога, адчуванне ўласнай слабасці.

Думкі — разумовы хаос, разгубленасць, "пустая" галава, адна і тая ж думка "ходзіць па коле", разумовы скачок у негатыўную будучыню, фіксацыя на адным, часцей за ўсё самым кепскім выйсці з сітуацыі, асэнсаванне сябе як ахвяры ў жорсткім свеце.

Страх можа развівацца ў трох напрамках:

1.Ступар, поўная затарможанасць: фізічная, эмацыянальная, разумовая.

2.Паніка. Некантраляванае псіхаматорнае ўзбуджэнне.

3.Агрэсія, нярэдка не адэкватная пагрозе.

Небяспека страху ў тым, што ён адымае ў чалавека энергію, разбурае поле нашай абароненасці — наша энергетычнае поле. Страх дазваляе лёгка маніпуляваць людзьмі. І, натуральна, страх не дазваляе людзям дамагацца сваёй мэты. Ён спараджае боязь паўторнага ўзнікнення негатыўнай сітуацыі.

Дзейсны сродак, каб змагацца са страхам і аб'ектыўна ацэньваць сітуацыю, — інтэнсіўная тэхніка дыхання "шарыкам". Яна дапамагла пераадолець страх многім вядомым у свеце людзям, якія рызыкавалі ўласным жыццём.

Заплюшчыце вочы і ўявіце перад сабой лёгкі тэнісны шарык. Удых — шарык павольна і плаўна падымаецца ад цэнтра вашага жывата да горла. Выдых — і шарык гэтаксама плаўна апускаецца ўніз. Калі чалавек трывожыцца, баіцца, шарык замірае ў адной кропцы альбо рухаецца хутка, скачкамі. Калі чалавек упэўнены ў сабе, шарык рухаецца плаўна, рытмічна. У сітуацыі трывогі і страху трэба дамагчыся, каб шарык рухаўся менавіта так. Фізічныя дзеянні змяншаюць трывогу і страх.

У перыяд страху чалавек уяўляе сабе толькі негатыўны варыянт будучыні. Каб эфектыўна зменшыць перажыванні, неабходна ўявіць сабе пазітыўны варыянт будучыні і ўбачыць сябе ў ім бясстрашным чалавекам, які эфектыўна дасягае сваёй мэты. Дапамагае яму ў гэтым наступная тэхніка, якая запускае механізмы бясстрашнасці.

## «Герой з будучыні»

Уявіце сабе, што ў будучыні вы робіце тое, чаго баіцеся, але паспяхова, дасягаючы сваёй мэты. Спачатку ўявіце, як гэта рабіў бы нехта іншы, смялейшы, чым вы. Затым уявіце, як гэта робіце вы, бачачы сябе з боку. Наступны этап — уявіце, што гэта робіце вы самі, знаходзячыся ўнутры сябе, і што вы гэта нарэшце абавязкова зробіце.

Вельмі эфектыўнае, на думку Вагіна, наступнае практыкаванне для кантролю і змяншэння страху. Ён прапануе вучням, седзячы на крэсле, упасці разам з крэслам назад на падлогу. Гэта сапраўды страшна зрабіць упершыню. Перад гэтым ён паказвае, як падаць з крэслам. Чалавек павінен дакладна ўявіць, як ён падае. Потым вучні бачаць, дакладней — уяўляюць, як падаюць яны самі. Пасля чаго ўяўляюць, як яны сябе адчуваюць падчас падзення, як устаюць цэлыя і здаровыя.

Потым ім прапануецца ўявіць сабе, як яны падалі падобным чынам сотні, тысячы разоў у дзяцінстве і як ім падабалася падаць з крэслам назад. Толькі пасля гэтага трэнер знаёміць іх з правіламі бяспекі пры падзенні з крэслам назад. І вучні пачынаюць падаць самастойна. Практыкаванне — унікальны досвед працы з любым страхам.

Людзі, якія ўмеюць самастойна зніжаць узровень страху, кажуць, што ў іх ёсць свае эмацыянальна значныя фразы — кодавыя каманды, якія яны пракручваюць у галаве і якія дзейнічаюць на іх як "удар бізуна". Можна выкарыстоўваць фразы кшталту "Наперад!", "Прарвёмся!" ці іншыя падобныя.

Разам з тым трэба разумець, што абсалютная бясстрашнасць бессэнсоўная. Нічога не баяцца толькі прыдуркаватыя, псіхічна хворыя людзі і малыя дзеці. Страх — натуральная чалавечая рэакцыя на рэальную небяспеку. І гэтым страхам можна і трэба кіраваць. Трэба толькі жаданне ды мужнасць.

Вельмі важная якасць — упэўненасць у сабе, у сваіх сілах. Аврам Лінкальн, прэзідэнт ЗША, сцвярджаў: "Калі жадаеш дамагчыся поспеху, працягвай верыць у сябе і тады, калі ў цябе ўжо ніхто не верыць".

Упэўненасць — аснова поспеху. Людзі, не ўпэўненыя ў сабе, няздольныя прааналізаваць і ацаніць аб'ектыўна складаную сітуацыю, не могуць своечасова прыняць адказнае рашэнне. Ім невядома такое паняцце, як сіла духу. Упэўненасць — гэта стан духу. І па веры адплаціцца вам.

ИНИЦИАТИВА

## Студенты против высоких цен на обучение

*Группа студентов инициировала общественную интернет-кампанию с требованием привязать стоимость обучения к уровню инфляции в стране. Можно ли из виртуальной кампании получить реальный результат?*

На сайте кампании obraschenie.vv.si ее инициаторы так сформулировали цель акции: "*Чтобы изменение стоимости платного обучения во всех учебных заведениях страны с 2013 года было привязано исключительно к фактической и планируемой инфляции в стране и проходило 1 раз в год*".

Студенты требуют, чтобы изменение стоимости платного обучения во всех учебных заведениях страны с 2013 года было привязано исключительно к фактической и планируемой инфляции в стране и проходило один раз в год.

*— Мы не затрагиваем вопрос формирования стоимости платного обучения, а только изменения этой стоимости в процессе обучения, —* заявляют студенты. — *Оно должно основываться не на постоянно увеличивающихся расходах учебных заведений, а на способности родителей оплачивать обучение своих детей, что выражается в экономических показателях развития страны. В большинстве стран Европы стоимость обучения фиксированная. Это позволяет будущим студентам и их родителям с уверенностью выбирать учебное заведение и планировать свои расходы. Мы считаем, что наши родители также должны знать, смогут ли они оплачивать наше обучение и быть уверенными в завтрашнем дне,* — объясняют инициаторы кампании. — *Например, поступая на первый курс, мы знаем, что за первый год обучения мы заплатим 5 млн рублей при планируемой инфляции на год 10%. Через год фактическая инфляция составила 12%, а планируемая на следующий год - 8%. Таким образом, стоимость обучения на следующий год должна увеличиться на 2% (разница планируемой и фактической инфляции за прошлый год) и 8% (планируемая инфляция на следующий год), то есть на 10%.*

Инициаторы кампании планируют отправить к 30 июня 2013 года 10.000 электронных обращений граждан Беларуси президенту страны и министру образования.

Стоит напомнить, что сегодня в вузах Беларуси обучается около 445 тысяч студентов. Более половины из них — около 65% — студенты платных отделений. Только за три учебных года — с сентября 2010 года по апрель 2013-го стоимость обучения пересчитывалась 9 раз и выросла примерно в три раза.

**Галина ГОНЧАРИК.**

ЧУЛІ?

## Курэнне ў рэстаранах і цягніках будзе забаронена

*Такая норма закладзена ў праект закона "Аб абароне здароўя насельніцтва ад наступстваў спажывання тытуню і ўздзеяння навакольнага тытунёвага дыму".*

Праўда, законапраект плануецца уключыць у падрыхтоўку толькі на 2014 год. Акрамя таго, чакаецца, што дакумент пройдзе праз грамадскае абмеркаванне.

Якія меры прапаноўваецца зацвердзіць на ўзроўні закона? Паводле цяперашняга варыянта законапраекта, плануецца абвясціць зонай, свабоднай ад курэння, усе аб'екты харчавання. Гэта значыць курэнне ў кафэ і рэстаранах будзе забаронена цалкам, а не проста абмежавана шляхам выдзялення зон, дзе можна паліць, а дзе не. Таксама плануецца ўвядзенне поўнай забароны і на курэнне ў цягніках. Зараз паліць можна ў цягніках далёкага накіравання ў спецыяльна абсталяваных месцах.

Паводле ацэнак медыкаў, прыняцце такіх мер дасць магчымасць знізіць спажыванне тытуню ў краіне не менш як на 30%.

Дарэчы, паводле даных статыстыкі, у Беларусі курыць 30,5% насельніцтва. У 2001 годзе прыхільнікаў згубнай звычкі было значна болей — 41,6% насельніцтва. Але ўсё роўна гэта многа, калі кожны трэці беларус мае такую звычку.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ВІДАВОЧНАЕ-НЕВЕРАГОДНАЕ

## Божы знак ці прыродная з'ява?

*Гады два таму ў невялікай вёсцы Губарэвічы Хойніцкага раёна, адселенай пасля чарнобыльскай катастрофы, здарылася невытлумачальнае — на зрэзе сука магутнага старога вяза праявіўся малюнак, вельмі падобны на абраз Багародзіцы з Немаўляткам.*

Слава пра "цуд" з дапамогай інтэрнэту хутка разнеслася, у Губарэвічы пацягнуліся паломнікі. Вяз абгарадзілі плотам, упрыгожылі кветкамі, ручнікамі і стужкамі, сюды прыходзяць памаліцца і папрасіць Божую Маці пра запаветнае і набалелае.

"Гэта дабраславенне, нейкі сігнал, дар — і не паверыць гэтаму нельга, — падзялілася з карэспандэнтам БелаПАН мясцовая жыхарка Галіна Хаціла. — Я веру і хачу, каб і людзі верылі. І каб Маці Божая была ў нас даўжэй, каб не знікла. Калі за ёй будзе догляд, яна адчуе ласку і аддасць яе людзям. Як даглядаць? Абгарадзіць, кветачкі пасадзіць, прыходзіць сюды і маліцца, прасіць яе, каб дапамагла, захавала нашых людзей, якія пацярпелі ад Чарнобыля".

Незвычайную карціну мы папрасілі пракаментаваць аўтарытэтнага спецыяліста — загадчыка лабараторыі інтрадукцыі драўняных раслін Цэнтральнага батанічнага сада НАН Беларусі, кандыдата біялагічных навук Ігара Гарановіча.

"Тое, што мы бачым, — гэта працэс зарастання раны на дрэве, — тлумачыць ён. — Быў спілаваны сук, даволі вялікі па дыяметры, — і вось з усіх бакоў утвараецца наплыў камбіяльнай тканіны. Такім чынам дрэва імкнецца абараніцца, каб з часам рана магла зарасці. Гэта натуральны працэс, уласцівы ўсім пародам дрэў, не ведаю, што тут такога цудоўнага.

Малюнак сам па сабе выяўны, гэта гадавыя кольцы. Мне, напрыклад, вельмі падабаецца, як зарастае бук. Вы ведаеце, што, выкарыстоўваючы спілы дрэва, робяць розныя вырабы — малюнак гадавых кольцаў сам па сабе вельмі прыгожы".

Вучоны параіў замазаць спілы антысептыкам, фарбай, каб дапамагчы дрэву хутчэй справіцца з траўмай.

"На кожным спіле застаюцца сляды гадавых кольцаў, — дапаўняе калегу старшы навуковы супрацоўнік лабараторыі Міхаіл Аўдзевіч. — У дадзеным выпадку гэта спіл сука, зроблены ў такім удалым месцы, што выявіўся малюнак, які можна ўспрымаць у нейкім набліжэнні як аблічча іконы Божай Маці.

Думаю, калі б гэты спіл быў трохі пад іншым вуглом ці на іншай адлегласці ад ствала, то гэты малюнак не выявіўся б. Так што ў наяўнасці проста збег абставін".

ЗА РУЛЁМ

## Рэгістрацыя аўто — па новых правілах

*З 1 мая 2013 года рэгістрацыя ўвезеных у Беларусь з Расіі і Казахстана транспартных сродкаў будзе ажыццяўляцца толькі на падставе пасведчання аб рэгістрацыі з адзнакай рэгіструючага органа аб зняцці такога транспартнага сродку з уліку.*

Пра гэта паведамляе ДАІ ГУУС Мінгарвыканкама.

У выключных выпадках пры адсутнасці пасведчання аб рэгістрацыі з адзнакай рэгіструючага органа аб зняцці транспартнага сродку з уліку рэгістрацыя транспартных сродкаў на падставе пашпарта транспартнага сродку будзе вырабляцца толькі пасля афіцыйнага пацверджання рэгістрацыі і зняцця такога транспартнага сродку з уліку па месцы яго папярэдняй рэгістрацыі на тэрыторыі дзяржавы — члена Мытнага саюза.

Парадак змяняецца ў мэтах няўхільнага выканання патрабаванняў нарматыўных прававых актаў, якія рэгламентуюць рэгістрацыйную дзейнасць ДАІ.

### Толькі лічбы

За мінулы год у Мінску было пастаўлена на ўлік амаль 90 тыс. транспартных сродкаў, якія належаць фізічным асобам. Гэта на 43% менш у параўнанні з 2011 годам. Усяго ў Мінску зарэгістравана каля 800 тыс. транспартных сродкаў.

КУЛЬТУРНАЯ АНАЛІТЫКА

*Яўген АЛЕЙНІК:*

# «Ніякія заморскія прынцы не зробяць нам лепш, чым мы самі...»

*4 мая спявачка **Алена Ланская** ляціць у шведскі горад Мальмё на "Еўрабачанне".*

*Ці ёсць у Беларусі шанцы на перамогу?*

*Чаму беларускіх артыстаў часцей за ўсё да гэтага конкурсу рыхтуюць замежнікі?*

*І што рабіць, калі мы зноў праляцім міма фіналу?*

*Пра гэта "Народнай Волі" распавёў беларускі кампазітар і прадзюсар **Яўген Алейнік.***

## Бітва за эфір

*"Еўрабачанне" — конкурс для хатніх гаспадынь, да яго залішне сур'ёзна ставіцца не варта", — такое меркаванне не раз выказвалі і артысты, і нават сур'ёзныя музычныя крытыкі. Яўген Алейнік з такой расстаноўкай акцэнтаў катэгарычна не згодны.*

— "Еўрабачанне" транслюецца па ўсёй планеце, гэта сусветнае шоу, — *прыводзіць аргументы кампазітар*. — У паўфіналістаў, якія не выйшлі ў фінал, ёсць адзін эфір, у тых, хто трапіў у фінал, — два эфіры, у пераможцы — тры, таму што ён у канцы спявае сваю песню яшчэ раз. Як можна несур'ёзна ставіцца да конкурсу, аўдыторыя якога набліжаецца да 200 мільёнаў чалавек? Гэта самы грандыёзны ў свеце неспартыўны тэлевізійны праект!

## Канкурэнты што трэба!

*У СМІ ўжо прайшла навіна пра тое, што букмекеры запісалі Алёну Ланскую ў фаварыты — ёй прадказваюць пятае месца ў фінале конкурсу.*

— Кожны год ёсць трыпяць твораў ці выканаўцаў, якія ў аднолькавай ступені вартыя перамогі на гэтым конкурсе па аб'ектыўных прычынах: папулярнасць на радыёстанцыях, яркая візуальная карцінка, запамінальная мелодыя ці артыст, — *каментуе Яўген*. — Але адгадаць пераможцу "Еўрабачання" немагчыма, што б ні казалі букмекерскія канторы! Пераможца заўсёды не відавочны. І я адрываў бы язык тым, хто крычыць: "Мы пераможам! Мы выйдзем у фінал!" Таму што такія рэчы не прагназуюцца нават з доляй верагоднасці 50 працэнтаў.

Што да перамогі, то для мяне перамога Алёны Ланской — гэта выхад у фінал, удзел у вялікім шоу. Дарэчы, у гэтым годзе на "Еўрабачанне" выставіліся вельмі моцныя ўдзельнікі. Боні Тайлер ад Вялікабрытаніі, спявачка Каскада ад Нямеччыны, Швецыя зноў выбрала феерычны нумар, Фінляндыя — проста дзіўная дзяўчына, у датчанкі вар'яцкая энергетыка, яна, дарэчы, лідар паводле прагнозаў букмекераў... Як можна пры такіх магутных канкурэнтах цешыць беларускіх аматараў "Еўрабачання" нейкімі абяцаннямі?..



## Мільярды на вецер?

*На падрыхтоўку Алёны Ланской да "Еўрабачання" выдаткавана больш за чатыры мільярды беларускіх рублёў. Грошы — ад спонсараў.*

— Ужо чацвёрты год на "Еўрабачанне" прыходзяць прыватныя грошы, — *з веданнем справы гаворыць Яўген Алейнік*. — З аднаго боку, калі ўкладваюцца такія грошы, значыць, можна разлічваць на нейкія перспектывы, развіццё. Але, з іншага боку, атрымліваецца, як у спорце, — перыядычна ўспыхваюць нейкія зоркі, а нармальнай школы падрыхтоўкі, сістэмы — няма. Мне Дзяніс Вяршэнка, удзельнік "Славянскага базару—2010", распавядаў аб сваіх зносінах з канкурсантамі з Балканскіх краін. Дык вось яны ўдзельнічаюць у адборы на "Славянскі базар" на некалькі гадоў наперад. Гэта значыць у 2012 годзе ўжо ясна, хто паедзе ў Віцебск ў 2014-м. І ў выканаўцы ёсць два гады, каб як след падрыхтавацца...

На "Еўрабачанне" і іншыя конкурсы трэба выбіраць лепшага з тых, хто проста спявае, крута спявае і спявае, як бог. А ў нас іншы падыход — выбіраем з таго, што ёсць. Мне здаецца, гэта няправільна.

Дарэчы, ведаю, што ў некаторых краінах за адборам на "Еўрабачанне" сочаць гэтак жа жорстка, як за выбарамі ў парламент.

### Візітоўка

*Яўген Алейнік нарадзіўся 11 мая 1981 года ў Мінску. Сям'я Алейнікаў мела даўнія музычныя традыцыі: маці Яўгена, Ніна Яўгенаўна Алейнік, у юнацтве скончыла музычную школу, а дзед, Яўген Емяльянавіч, быў пляменнікам вялікага рускага тэнара Івана Сямёнавіча Казлоўскага.*

*Яўген пачаў займацца музыкай у 6 гадоў, скончыў музычную школу. Вышэйшую адукацыю атрымаў у БДЭУ, мае дыплом перакладчыка парыжскай Гандлёвай палаты.*

*У 2007 годзе прадзюсіраваў пераможцу дзіцячага "Еўрабачання-2007" **Аляксея Жыгалковіча,** у 2010 годзе Яўген Алейнік быў кампазітарам дзіцячага "Еўрабачання-2010", разам з жонкай **Юліяй Быкавай** пісаў песні для ўдзельніцы "Еўрабачання-2009" заслужанай артысткі Малдовы **Нэлі Чабану**, у 2011 годзе з кампазіцыяй Алейніка "I love Belarus" на "Еўрабачанне" ездзіла **Анастасія Віннікава.***

## Без фальсіфікацый

*Пару тыдняў таму музыканты гурта "Litesound", якія прадстаўлялі Беларусь на "Еўрабачанні-2012", накіравалі зварот Генеральнаму пракурору **Аляксандру Канюку** з просьбай распачаць крымінальную справу па факце фальсіфікацыі вынікаў галасавання на конкурсе "Еўрафэст" у 2012 годзе.*

*"Асобы, якія фальсіфікавалі вынікі нацыянальнага адборачнага тура праекта "Еўрафэст", здзейснілі падробку дакументаў і дзеянні, якія нанеслі істотную шкоду правам і законным інтарэсам грамадзян, дзяржаўным і грамадскім інтарэсам", — напісана ў лісце.*

— Патрабаванні і прэтэнзіі групы месцамі вельмі лагічныя, месцамі — супярэчлівыя, — *дзеліцца думкамі Яўген Алейнік*. — І некаторыя пытанні пра кулуарныя гульні яны ставяць зусім правільна. Але... Яны таленавітыя музыканты, а ўсе таленавітыя людзі вельмі спрэчныя ў сваіх паводзінах.

*Што рабіць, калі гэта "Еўрабачанне" зноў стане для Беларусі, мякка кажучы, не самым удалым? І якія высновы можна зрабіць ужо сёння?*

— Перш за ўсё трэба стварыць нейкую форму адбору на "Еўрабачанне", пры якой будзе мінімізавана асабістае меркаванне кожнага члена журы і вялікае асабістае меркаванне старшыні журы. Калі не цісnуць на сябраў журы, не збіраць журы па прынцыпе лаяльнасці, то ўсё будзе выдатна. Заўважце: не сядзяць функцыянеры і міністры на музычных конкурсах у Англіі і ЗША, тым больш не з'яўляюцца старшынямі журы асобы, якія наогул не маюць ніякага дачынення да музыкі!

У гэтым сэнсе я згодны з групай "Лайтсаунд" — адбор на любы конкурс павінен быць максімальна празрыстым. І журы павінна асабіста даваць справаздачу за свае ацэнкі. Я да гэтага часу не атрымаў сатысфакцыі за тое "Еўрабачанне", у якім быў членам журы, і не ведаю, якія адзнакі паставілі ўсе члены журы ў паўфінале і фінале. Ва Украіне з гэтым усё ясна: там у пратаколе насупраць імя кожнага члена журы стаіць яго ацэнка. А яшчэ трэба, калі далей ісці, праштампаваныя пратаколы з "Белтэлекама" выкладаць у сеціва. Таму што калі ўсё шыта-крыта — гэта няправільна. І калі на самай справе ўсё клёва, перамагла нейкая група — пакажыце, зніміце камень з душы! А калі не паказваеце — значыць, нешта там не тое...

Трэба раз і назаўсёды ўвесці адказнасць за лабіраванне. У Расіі, напрыклад, прадугледжана адказнасць за подкуп журы нават камерцыйных (!) конкурсаў.

## А наша дзе?

*На форумах у інтэрнэце і жартам і сур'ёзна гавораць пра тое, што на "Еўрабачанні" ад нас беларускімі, падобна, будуць толькі гарэлка і цукеркі. Усё астатняе — суцэльны імпарт.*

— Сумна, калі беларускіх удзельнікаў "Еўрабачання" не бачна на сцэне за працай замежных "спецыялістаў", — *выказвае свой пункт гледжання Алейнік*. — Песня пішацца на Марсе, пастаноўка робіцца на Юпітэры, а касцюм шыюць на Венеры. У выніку атрымліваецца, што беларускі выканаўца не нясе нічога беларускага. Нават песня на англійскай!

У нас, па сутнасці, беларусы рыхтавалі артыстаў да "Еўрабачання" ўсяго некалькі разоў. Гэта няправільна. Я лічу, што калі б у нас падрыхтоўкай да "Еўрабачання" займаліся беларускія спецыялісты, то за 10 гадоў ужо склалася б пэўная школа, каманда па падрыхтоўцы выканаўцаў. Трэба разумець, што ніякія заморскія прынцы не зробяць нам лепш, чым мы самі...

Замежныя аўтары, харэографы, мадэльеры, якія па запрашэнні нашых прадзюсараў займаюцца беларускімі ўдзельнікамі "Еўрабачання", на самай справе не адпавядаюць таму ўзроўню зорнасці, які ім спрабуюць надаць у прэсе...

**Марына КОКТЫШ.**

КОМПЛИМЕНТЫ

## *Патрисия Каас оценила красоту белорусок*

*И поделилась своим секретом красоты.*

*"Белорусские женщины очень красивы*, — отметила певица во время пресс-конференции перед концертом в Минске. — *В любой женщине есть шарм, просто его нужно отыскать. А что касается меня, то я просто стараюсь высыпаться, много танцевать и заниматься спортом. Все это очень важно для меня".*

Патрисия уже третий раз приезжает в Минск.

*"К сожалению, в турне так мало свободного времени, поэтому я не могу посмотреть город. Единственное сходство между Парижем и Минском, которое я успела заметить, — это серое небо*", — с улыбкой рассказала Каас.

СЛЫШАЛИ?

## *Лучшей бизнес-леди Беларуси признали директора медцентра*

*В конкурсе "Леди Босс-2013" победила директор медицинского центра "Оптимед" **Анастасия Унучек**.*



Участниц второго конкурса "Леди Босс" искали среди руководителей и владелиц различных фирм. Одно из главных условий — их сферы деятельности не должны были пересекаться. Так что среди 12 участниц конкурса были бизнес-леди, занимающиеся самыми разными делами. О своих делах дамам пришлось рассказывать не один раз — во время различных этапов конкурса. Леди пришлось даже на один день поменяться работами, чтобы проверить на прочность свои бизнес-навыки. Были и исключительно женские "штучки" — кулинарные поединки, дефиле в вечерних нарядах. В итоге победительницей конкурса стала директор медицинского центра "Оптимед" **Анастасия Унучек**. Она получила статус "Леди Босс-2013" и путевку на двоих в Иорданию.

ПРЕМЬЕРА!

## Несовершенный «Мистер Икс»

*Накануне премьеры режиссер Анна Моторная так вкусно рассказывала про этот спектакль, что пропустить его было невозможно. В Музыкальном театре три дня подряд давали премьеру — оперетту "Мистер Икс".*



Мистер Икс — Андрей Морозов.

**Анна Моторная** назвала свой спектакль средством от депрессии. По ее словам, оперетта с четырьмя любовными линиями получилась настолько позитивной, что мало кого оставит равнодушным. Однако рассказ о премьере получился лучше, чем сам спектакль.

Эта оперетта раньше шла в театре под другим названием — "Принцесса цирка". Однако руководство театра решило сделать акцент именно на "Мистере Икс", режиссер вначале сопротивлялась, убеждала, что Кальман все свои оперетты называл женскими именами, а потом согласилась. Сюжет слегка переработали, добавили юмора с перчиком и любовных линий.

В воскресенье народной артистке **Наталии Гайда**, которая блистательно сыграла роль Каролины Шлюмбергер, хозяйки отеля "Танцующий лобстер" (да, "Зеленый попугай" переименовали), букет цветов после спектакля, к сожалению, не подарили. Хотя заслуженно оглушили аплодисментами (и не раз!). Именно благодаря появлению на сцене **Наталии Гайда и Алексея Кузьмина** (он играл Пеликана, метрдотеля "Танцующего лобстера") спектакль оживился. Ибо в первом акте публика слегка позевывала. Возможно потому, что далеко не все происходящее на сцене можно было разобрать в бенуаре и в конце зала — слышимость была не очень. А возможно, и потому, что не вызывал восторга Мистер Икс.

Наверняка многие помнят фильм "Принцесса цирка" с **Натальей Белохвостиковой, Владимиром Басовым и Людмилой Касаткиной** в ролях. Мистера Икс там сыграл **Игорь Кеблушек**, чехословацкий дипломат и бизнесмен, получивший известность в СССР и России именно благодаря этой роли. В этого красавца влюблялись моментально! И до сих пор многие помнят те знаменитые арии (вокал **Владимира Мальченко**). Так вот Мистер Икс в исполнении лауреата международных конкурсов **Андрея Морозова** любви с первого взгляда не вызывал. Это, конечно, не совсем провальный вариант, артист во втором и третьем актах выглядел достойно, однако... Ему не хватало для этой роли завораживающей притягательности. А вот **Маргарита Александрович** хорошо справилась с ролью русской эмигрантки, красавицы Теодоры Палинской.

Но первый акт, без сомнения, вытянули **Денис Немцов** (барон Гастон де Кревельяк, аристократ на грани разорения) и **Лидия Кузьмицкая** (влюбленная в барона помощница мадемуазель Пуассон). Им, кстати, больше всего и цветов подарили после спектакля. Не жалела публика аплодисментов и для Тони с Мари (их отлично сыграли **Александр Гелах** и **Ирина Кучинская)**.

Нельзя не отметить работу хора — артистам удалось не только внести светскую атмосферу в каждую сцену, но и местами даже перетянуть внимание на себя.

Оперетта сделана на три состава артистов, соответственно, и Мистеров Икс тоже три. Однако в кулуарах говорят, что спектакль с Гайда, Немцовым и Морозовым — лучший.

Стоит заметить, что все три дня залы в Музыкальном были переполнены.

**Марина КОКТЫШ.**

ПЕРЕД СОБЫТИЕМ

# ...И Панджавидзе осмелился

*Сегодня в Большом театре оперы и балета - премьера оперы "Турандот".*

Свой последний шедевр **Джаккомо Пуччини** не закончил. И, не желая того, композитор выстрелил в XXI век, в далекое будущее, словно предложив потомкам самим решать непростую задачу, как именно ставить это загадочное масштабное произведение. Со счастливым финалом, дописанным его другом и учеником Франко Альфано, или закончить оперное повествование на той ноте, где он остановился в больших раздумьях (явно не ожидая, что смерть так скоро придет за ним), и не давать зрителю сладкой конфеты в виде хэппи-энда?

Главный режиссер Большого театра оперы и балета Михаил Панджавидзе решился на второй вариант — оперу "Турандот" мы услышим незаконченной, то есть именно такой, как написал композитор, даже авторские купюры на этот раз будут открыты. Не все, признал Панджавидзе, согласны с его точкой зрения даже среди коллег. Но авторскую позицию режиссера ломать об колено не стали, уважая его прочтение материала. Редкая творческая чуткость! И дальновидная. Хотя бы потому, что одним этим фактом обеспечено внимание к новой постановке Большого театра и, видимо, жаркие споры. Ведь, надо заметить, нигде в мире этот спектакль без финала до сих пор не ставит никто. А традиция, согласитесь, тяжелая оглобля.

Но судьба, что называется, "догнала" главного режиссера Панджавидзе. Во время постановочного периода скоропостижно скончался художник спектакля — заслуженный деятель искусств России Игорь Гриневич. И нашему режиссеру пришлось-таки взять на свои плечи чужую ношу (как, повторюсь, когда-то Франко Альфано взял партитуру Пуччини) и завершить работу над спектаклем по оставшимся от товарища макетам и наброскам. "Нам не дано предугадать, как слово наше отзовется..." Лично я вижу в этом перст судьбы. Собственно, когда работаешь с таким великим и загадочным материалом, как "Турандот", другого объяснения не находишь.

Вообще, к опере "Турандот" в Большом театре подбирались давно. О ней, по ее собственному признанию, буквально бредила главный хормейстер народная артистка Беларуси Нина Ломанович: ведь в "Турандот" хор — практически главное действующее лицо, и в пиковый момент на сцене будут петь сразу 200 человек. Роскошь для выражения творческих амбиций хормейстера! Еще 13 лет назад Нина Иосифовна принесла партитуру в театр. Коллектив начал работать и, как рассказывает Ломанович, закружилась голова: во-первых, феноменальный музыкальный материал, но, во-вторых и главных, произведение такой невероятной сложности, такой изобильной тесситуры, что исполнить ее может очень сильный художественный коллектив и выдающиеся солисты. Может быть, поэтому сначала театр ограничился концертной версией "Турандот" — шел 2000-й год. В 2002-м режиссер Галина Галковская сделала сценическую версию спектакля. И вот третья, полномасштабная, соответствующая пресловутому "большому стилю" постановка. Теперь остается главная интрига: будет ли отвечать этому стилю вокал? Как исполнят великую драму Пуччини солисты, как будет музицировать оркестр? Дирижер-постановщик Виктор Плоскина не просит о снисхождении — только об объективности. Но добавляет: "С маленьким процентом любви".

**Елена МОЛОЧКО.**

ВЯЛІКАЯ БУДОЎЛЯ

# Брэсцкі тэатр лялек займее самы сучасны будынак

*Аб'ект амаль на два гады быў замарожаны, але сёння дакладна вядома, што да канца 2014 года ў абласным цэнтры адчыніцца новы будынак тэатра з фантастычным начыннем — тут будзе нават штучная рака...*

## Будынак-фенікс

У 2011 годзе, калі ў Брэсце пачалася рэканструкцыя тэатра, праект новага будынка абмяркоўвалі па ўсёй краіне. Яго аўтар — архітэктар **Валерый Кяскевіч** — атрымаў дыплом і медаль у намінацыі "Рэканструкцыя" падчас Рэспубліканскага конкурсу лепшых архітэктурных твораў 2008—2009 гадоў. Над воблікам тэатра дойлід працаваў 15 гадоў. Праект шмат разоў мяняўся, перакройваўся, каб у рэшце рэшт атрымаць статус адной з самых амбіцыёзных архітэктурных задум краіны. Новы будынак мусіў быць стромкім, незвычайным — фасад упрыгожвае шкляная піраміда, над уваходам змешчаны сучасны навес, шмат шкла і люстраў.

Згодна з першапачатковымі планамі, праект павінен быў ажыццявіцца ўжо ў другім квартале 2013 года. Будаўнікі хутка пазбавіліся ад часткі старога дома, агарадзілі пляцоўку і... рэканструкцыя застапарылася. Пачаліся перабоі з фінансаваннем. Будоўля замерла на два гады, але нядаўна на пляцоўцы зноў заварочалася тэхніка.

"*Не магу нічога распавесці аб рэканструкцыі, бо я далёкі ад гэтых пытанняў, як да Луны*, — шчыра прызнаўся дырэктар тэатра **Міхаіл Шавель**. — *Але работы ўзнавіліся, думаю, аб іх лепш распавядуць у аблвыканкаме*".

Сапраўды, галоўная праблема, што перашкаджала ходу аднаўлення, вырашана — на будоўлю зноў выдаткаваны грошы.

*"Рэканструкцыя ўзнавілася, так што ў 2014 годзе праект павінен завяршыцца*, — паведаміў "Народнай Волі" намеснік кіраўніка па будаўніцтве ўпраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама **Дзмітрый Сачкоўскі**. — *Калі б павялічылася фінансаванне, тэмпы можна было б паскорыць. Але наш бюджэт абмежаваны. Грошы на будаўніцтва паступаюць з абласной казны, рэспубліканскі бюджэт мы не кранаем"*.

## Нетыповы фасад

Галоўная асаблівасць будучага абноўленага Брэсцкага тэатра лялек — яго фасад. Фасад будынка будзе незвычайным, фантастычным і амбіцыёзным. Вельмі індывідуальная рыса — шкляная стэла. Элемент нахілены, ці "падаючы", а на планах нагадвае елачку. Магчыма, да стэлы, на вяршыні якой размесціцца гадзіннік, будзе прыстасаваны маятнік. Гэта зробіць будынак больш жывым.

Архітэктар Кяскевіч падчас сваёй працы над праектам абноўленага тэатра адпусціў сваю фантазію на волю. Ну які яшчэ будынак у краіне мае ўласны аазіс? Злева ад уваходу ў тэатр размесціца зялёны лужок і штучная рачулка. Каб на маленькім вадаёме былі сапраўдныя хвалі, будзе зманціравана сістэма штучнага брызу.



"*Нягледзячы на затрымку ў рэканструкцыі, планы не змяніліся*, — пацвердзіў Дзмітрый Мікалаевіч. — *Будынак будзе такім жа насычаным, як прыдумаў аўтар. Безумоўна, задача нялёгкая, але нашы будаўнікі не бачаць у праекце нічога неверагоднага. Генпадрадчык — будтрэст №8 — ужо заключыў дадтковыя дамовы для спецыфічных работ. Напрыклад, спатрэбіцца дапамога пры стварэнні штучнай ракі"*.

## Асаблівыя патрабаванні

Стары будынак Брэсцкага тэатра лялек даўно патрабаваў рэканструкцыі. Дом узвялі яшчэ ў 30-я гады мінулага стагоддзя, у час, калі людзі верылі, што свабодны дух можа быць шчаслівым і ў спартанскіх умовах. "Кубіку" ў стылі польскага мадэрнізму была тэрмінова патрэбна "камфартабельная" рэабілітацыя. У акцёраў тэатра было ўсяго чатыры грымёрныя без вады і нармальных прыбіральняў, а за сцэнай амаль не было вольнай прасторы.

Дарэчы, над тым, каб надаць сцэне належныя якасці, спадару Кескевічу прыйшлося паламаць галаву. Смелыя тэхналагічныя ідэі трэба было прыстасаваць да сціплай прасторы.

У выніку вырашана, што на дзве залы (на 200 і 70 месцаў) будзе адна сцэна. Але якая! Пляцоўка будзе складацца з 5 частак, што змогуць падымацца і апускацца па жаданні рэжысёра-пастаноўшчыка.

Стане значна большым фае. Там нават з'явіцца "гламурная зона". Так стваральнік праекта жартаўліва называе месца, дзе можна праводзіць прыёмы, прэзентацыі і, безумоўна, дзіцячыя ранішнікі. Будзе і спецыяльнае месца для навагодняй ёлкі вышынёй да 10 метраў.

Тэатр будзе проста нашпігаваны тэхнікай. А сучасныя нормы будаўніцтва зробяць яго безбар'ернай прасторай, так што адчуваць сябе аднолькава ўтульна будуць усе госці тэатра.

Галоўнае, што пры ўсіх зменах і наваўвядзеннях гістарычны будынак тэатра з вобразам бусліка на фасадзе захаваецца. Стары дом стане арганічнай часткай новага тэатра. Ну а будынак, пабудаваны паводле праекта архітэктара Кяскевіча, абавязкова стане новай архітэктурнай славутасцю Брэста.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ФУТБОЛ

## «Шахцёр», БАТЭ, «Нёман»...

*У мінулыя выхадныя ў чэмпіянаце Беларусі па футболе прайшлі матчы 6-га тура.*

Вынікі матчаў тура: “Нёман” (Гродна) — “Днепр” (Магілёў) — 1:1, “Белшына” (Бабруйск) — “Нафтан” (Наваполацк) — 1:0, БАТЭ (Барысаў) — “Мінск” — 2:1, “Славія” (Мазыр) — “Шахцёр” (Салігорск) — 0:2, “Дынама” (Мн) — “Гомель” — 1:0, “Дынама” (Бр) — “Тарпеда-БелАЗ” (Жодзіна) — 2:1.

### Становішча каманд пасля 6-га тура

| КАМАНДА | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Шахцёр | 6 | 4 | 1 | 1 | 8—2 | 13 |
| 2. БАТЭ | 6 | 4 | 1 | 1 | 10—6 | 13 |
| 3. Нёман | 6 | 3 | 2 | 1 | 9—5 | 11 |
| 4. Белшына | 6 | 3 | 2 | 1 | 5—4 | 11 |
| 5. Дынама (Мн) | 6 | 2 | 3 | 1 | 7—5 | 9 |
| 6. Тарпеда-БелАЗ | 6 | 2 | 2 | 2 | 4—5 | 8 |
| 7. Днепр | 6 | 2 | 2 | 2 | 5—4 | 8 |
| 8. Гомель | 6 | 1 | 3 | 2 | 4—5 | 6 |
| 9. Мінск | 6 | 1 | 3 | 2 | 3—6 | 6 |
| 10. Дынама (Бр) | 6 | 1 | 1 | 4 | 5—9 | 4 |
| 11. Нафтан | 6 | 0 | 3 | 3 | 2—6 | 3 |
| 12. Славія | 6 | 0 | 3 | 3 | 1—6 | 3 |

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЧУЛІ?

## Зубраня Волат — талісман хакейнага чэмпіянату...

*Падведзены вынікі конкурсу на лепшае імя зубра — талісмана чэмпіянату свету па хакеі 2014 года.*

З трохсот імён выбрана адно — Волат. За яго прагаласавалі 859 чалавек. Пераможцамі конкурсу сталі мінчанка Марыя Мацкевіч і Леанід Краўчанка з Віцебшчыны. Па меркаванні членаў журы, гэтае імя зубраняці — наколькі запамінальнае, настолькі і лёгкае ў вымаўленні для замежнікаў, якія нахлынуць у Мінск падчас “лядовых пабоішчаў”. Іншыя імёны — Белавежык, Вежык, Расці, Пушчык і Шайбік — засталіся па-за гульнёй.

### ДАРЭЧЫ



Кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка падчас знаходжання ў Хойніках сказаў, што яму падабаецца імя Волат, абранае для зубра —талісмана чэмпіянату свету. *“Назва вельмі падабаецца. Волат — гэта моцная беларуская назва. Гэта салідна для Беларусі”*, — працытавала словы Лукашэнкі БЕЛТА.

Праўда, той яшчэ прызнаўся, што доўга думаў пра сэнс талісмана: *“Ніяк не магу зразумець, як пагляджу на гэтыя рогі, для чаго яны, што яны будуць сімвалізаваць? Празмерную агрэсіўнасць, ці гэта нам, мужыкам, намёк? Але галоўнае, каб ён падабаўся людзям”.*

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**

МАРШРУТЫ

## Рэгістрацыя на авіярэйсы ў Парыж — па інтэрнэце

*Нацыянальная авіякампанія “Белавія” пашырыла геаграфію самастойнай рэгістрацыі на рэйсы праз інтэрнэт у рэжыме анлайн. Цяпер пры вылеце з аэрапорта Шарль дэ Голь (Парыж, Францыя) і аэрапорта Шонефельд (Берлін, Германія) можна зарэгістравацца на рэйс “Белавія” на сайце авіякампаніі.*

*“Гэтая простая і зручная паслуга дазваляе пасажыру эканоміць час у аэрапорце і дае магчымасць абраць зручнае месца ў салоне самалёта”,* — адзначаюць у “Белавія”.

Анлайн-рэгістрацыя пачынаецца за 22 гадзіны і заканчваецца за 3 гадзіны да вылету рэйса па раскладзе, яна даступная пры вылеце з Мінска, Баку, Барселоны, Батумі, Берліна, Брэста, Варшавы, Гомеля, Гродна, Екацерынбурга, Ерэвана, Калінінграда, Мілана, Масквы, Новасібірска, Парыжа, Прагі, Рыма, Санкт-Пецярбурга, Тбілісі, Франкфурта, спіс якіх будзе пастаянна пашырацца.

Дарэчы, у гэтым годзе “Белавія” плануе даць магчымасць рэгістрацыі праз мабільныя тэлефоны і кіёскі самаабслугоўвання.

НЕЛЬЗЯ ЗАБЫТЬ

# Восстание в аду

*Музей боевой славы Мостовского района... Не один раз я приходила сюда, узнавая много нового о истории моего края. На этот раз внимание привлекла фотография красивой семейной пары — Залмана Градовского и его супруги Софьи. Наверное, это была очень счастливая семья... А рядом с этой красивой фотографией — ужасающие снимки из Освенцима: крематорий, газовые камеры...*



...Залман Градовский родился в 1908 или 1909 г. в городке Сувалки недалеко от Белостока (теперь — территория Польши). Получил еврейское (йешива) и общее образование, знал европейские языки и литературу, много читал, сам имел склонность к литературному творчеству. Волевой характер сочетался в нем с физической силой и еще с одним, довольно редким для мужчины качеством — тонкостью чувств. После женитьбы он переехал на родину жены, в местечко Лунно на Мостовщине.

Накануне войны в этой большой деревне было 2,5 тысячи человек, большинство — еврейское население. Лунно славилось сапожных дел мастерами, портными, крепкими хозяевами, ярмарками. С приходом немцев в 1941 году все евреи от 18 до 60 лет были включены в систему принудительных работ. Ходить разрешалось только по правой стороне улицы, предписывалось носить на левой руке белую повязку с шестиконечной звездой, нашивки на груди и спине. Той же осенью жители услышали слово “гетто”. 2 ноября всего за 6 часов все евреи были туда переселены. Взять с собой разрешалось лишь то, что можно унести на себе или довезти на детской коляске.

Каждый день здесь мог оказаться последним для любого невольника: по приказу коменданта их вешали, расстреливали за малейшую провинность. В 1942 г. в Колбасинский лагерь стали свозить евреев из окрестных местечек — Индуры, Сопоцкина, Скиделя. А 1 ноября 1942 г. на площади Лунно из близлежащих деревень были собраны крестьяне с подводами. Сюда привели всех жителей гетто — 1549 человек, вывезли в транзитный лагерь Колбасино. Догадывались ли несчастные, какая их ждет участь? Скорее всего догадывались, но все-таки на что-то надеялись. Многие оставляли свои вещи на сохранение бывшим соседям и хорошим знакомым — “до возвращения”. Но назад больше не вернулся никто...



Страница из дневника Залмана Градовского.

В лагере Колбасино мужчин отделяли от женщин, избивали, отбирали все, что имеет ценность. Поместили в землянки, кормили баландой из гнилой капусты. Многие умирали от голода, холода, болезней... А оставшихся в живых 5 декабря 1942 г. начали вывозить в лагерь смерти Освенцим.

Ночью, в мороз и стужу, их гнали пешком на станцию Лососно, глумились над людьми. Молча шли мужчины, женщины, старики, дети... Более сильные помогали передвигаться слабым. Слезы катились по щекам измученных людей. У них еще были слезы...

Вчитываюсь в записи Залмана Градовского. Этот документ был найден в пепле возле крематория в Освенциме, именно там успел спрятать в бутылке свои записки автор-узник. Рукописи были обнаружены в 40—50-е годы XX века, впервые опубликованы в 70-е, на русский язык переведены в 90-е. Первая страница “Дневника”: *“Посвящается моей семье, сожженной в Биркенау (Освенциме): моей жене Соне, моей матери Сорэ, моей сестре Эстер-Рохл, моей (сестре) Либэ, моему тестю Рефоэлу, моему зятю Вольфу”.*

А дальше — описания ужасного пути в никуда... *“Резкий свисток разрезал воздух. Это был сигнал отходящего поезда. Как зверь, убегающий с добычей, так наш поезд тронулся с места и помчался. Из всех сердец вырвался болезненный стон, все почувствовали, как это больно — знать, что ты теперь действительно оторван от дома. Толпа качнулась и едва не упала... Все стараются помочь друг другу, чтобы хотя бы выдержать дорогу. Детей берут на руки. Все договариваются: сейчас ты сидишь, а потом твое место занимает другой. Все пытаются создать атмосферу спокойствия и единства — будучи пойманными в сеть, которую раскинули лапы еще не проявившего себя дьявола. Религиозные евреи произносят дорожную молитву, желают друг другу: как пленных, везут нас — пусть вернемся мы освобожденными! Иди сюда, друг. Давай пройдемся по вагонам — по движущимся клеткам. Видишь, здесь в горе и отчаянии сидят и стоят люди, погруженные в глубокие, полные кошмаров думы. Монотонный печальный стук колес подавляет людей, усиливает их отчаяние. Кажется, что мы едем уже целую вечность. Мы вошли в поезд еврейских скитаний. Каждый жаждет охватить и запечатлеть взглядом все вокруг — как будто чувствуя, что видит это все в последний раз. Такое впечатление, что мы заточены в движущуюся крепость, мимо которой проносится окружающий мир во всем его многообразии — и прощается с нами, несчастными узниками...”*

Все были наслышаны о Треблинке и очень боялись туда попасть, а когда на станции Малкиня поезд не свернул налево, с облегчением подумали, что злая чаша миновала и их отправят в трудовой лагерь. Люди воспряли духом. Семьи старались изо всех сил оставаться вместе. *“Матери обнимают детей, гладят их головки. Большие дети сами прижимаются к родителям — хотят почувствовать материнскую и отцовскую нежность. Им кажется, что родители смогут укрыть их, защитить, чтобы ничего страшного с ними не случилось. Страх все сильнее, поезд, кажется, замедляет свой бег. Кажется, мы добрались до цели. Напряжение достигло высшей точки. Поезд остановился — и все затаили дыхание. От страха стали стучать зубы, сердца судорожно забились. Большая масса в смертельном ужасе ждет своих последних минут. Каждая секунда — как вечность, как шаг, приближающий нас к смерти. Все в оцепенении, все ждут момента, когда упадут в распростертые объятия дьявола, — он вцепится в них когтями и утащит к себе в логово. Звук свистка прервал это оцепенение. Поезд как будто очнулся и стал набирать ход. Матери целуют детей, жены — мужей, льются слезы радости. Все как будто заново родились, стали дышать свободнее. Появляются новые мысли, новые надежды, страх отпустил, ужас исчез. Новые думы, полные утешения, овладели всеми. Все уверились в том, что прежние предположения были неправильны, что все ужасные подозрения были беспочвенны, что люди выдумали их...”*



Дневник Градовского и бутылка, в которой хранился дневник.

Наконец, состав прибыл в Освенцим. Это было 8 декабря 1942 года. На перроне — этом эсэсовском “чистилище” — произошла стандартная селекция: 796 слабых и не пригодных к труду — женщины, старики и дети — составили две длинные очереди слева (отдельно женщины с детьми и отдельно пожилые и слабые мужчины), а молодые и крепкие (всего 231) — в очередь покороче, справа. Тех, кто оказался в левых очередях, затолкали в крытые брезентом грузовики и увезли. Затем их заставили раздеться и, дав по кусочку мыла, запустили в переоборудованную из крестьянского дома “баню” — в действительности же в импровизированную газовню: с недоумением смотрели они вверх, на совершенно сухие отверстия, — воду все никак не пускали, а когда невидимые им люди в противогазах сбросили сверху, через отверстия в потолке, какие-то зеленоватые кристаллы, жить оставалось всего по нескольку минут, очень мучительных. “Циклон Б”, этот незримый, без цвета и запаха, газ, не знал жалости: перекрывая (буквально) человеческим тканям кислород, синильная кислота давала невыносимую горечь во рту, затем царапала горло, сжимала грудину, вызывая рвоту, судороги и одышку, — так что можно было только позавидовать тем, кто оказывался ближе всего к упавшим кристаллам: вслед за короткими судорогами “счастливчик” терял сознание и уже не чувствовал, как наступал конец. Вцепившиеся друг в друга трупы извлекали, грузили на вагонетки (не забыв вырвать золотые зубы) и сбрасывали в огромные, никогда не остывавшие ямы-костры.

Транспорт RSHA №3 в Освенциме был зафиксирован следующим образом: *“8 декабря 1942 г. евреи из Гродно; 231 мужчина с номерами 80.764—80.994 посланы в лагерь. Дети, женщины и старики были умерщвлены газом”.* Отныне в живых из всей их семьи остался только он один — Залман Градовский, человек из правой очереди. Здоровый и сильный, он был пока что нужен рейху живым. Не спрашивая его согласия, Градовскому “оказали доверие” и включили в лагерную “Sonderkommando” — особую команду из числа заключенных, обслуживавшую весь конвейер уничтожения (за вычетом самого убийства, которое немцы оставляли за собой). Именно работники зондеркоманды извлекали трупы из газовых камер, сбрасывали их в костры или загружали в муфели крематориев, выгружали и хоронили бренный пепел многих тысяч людей. Иногда их называли еще “Totenkommando” — команда смерти, или “Leichenkommando” — трупная команда. Как никто другой, они представляли себе, что здесь происходит, и никаких иллюзий относительно собственного будущего у них тоже не было.

Не случайно именно в их среде вызрело и 7 октября 1944 г.: тогда вспыхнуло беспрецедентное в своем роде восстание в главном освенцимском лагере — Биркенау, где день и ночь горели четыре из пяти освенцимских крематориев. Залман Градовский был одним из руководителей восстания. Восставшим удалось взорвать и поджечь один из крематориев, который с тех пор уже не был восстановлен. Градовский, работавший в мятежном крематории №4, погиб в перестрелке, в неравном бою... Но еще до восстания он совершил два подвига — подвиг летописца и подвиг конспиратора. Около десяти месяцев вел дневник и другие записи, сумев не только засвидетельствовать все происходящее (что в условиях концлагеря было крайне нелегко), — но и надежно схоронить их для потомков. Свои записи Градовский закопал в пепле крематория. Вот последние строки из его “Дневника”: *“Я из Лунно Гродненской области. Прибыл из Колбасинского лагеря. Я закопал это в яме с пеплом — мне казалось, что там самое надежное место, где — на территории крематориев — обязательно будут копать”.*

Все записи Залмана Градовского найдены. Большую часть их удалось прочесть. Я не могу без слез и содрогания читать этот “Дневник”. Мне даже страшно на минуту закрыть глаза и представить весь ужас ада, в котором оказался он и его близкие. Я восхищаюсь смелостью и отвагой человека, который на краю гибели сумел найти в себе силы вести записи, запечатлеть происходящее, чтобы потомки узнали обо всем, что происходило в Освенциме. А еще — найти силы поднять и возглавить восстание в аду...

“Никогда больше” — было написано на стене барака одного из лагерей смерти. Никогда больше не должно повториться то, что учинили фашисты. Никогда больше не может быть геноцида и рабства, массового, беспощадного убийства. Никогда мир не должен равнодушно относиться к геноциду, независимо от того, против какого народа он направлен.

**Галина ТОРОПОВА.**

СКАНДАЛ

## Валянцін Кароткін: «Вучым, вучым, а ў выніку...»

*Галоўны трэнер нацыянальнай зборнай Беларусі па цяжкай атлетыцы пракаментаваў “Народнай Волі” чарговы допінгавы скандал з удзелам беларускіх спартсменаў.*

Як паведамляе афіцыйны сайт Міжнароднай федэрацыі цяжкай атлетыкі, двухгадовыя допінгавыя дыскваліфікацыі ў канцы 2012 года зарабілі адразу чацвёра нашых суайчыннікаў. Усе яны былі ўдзельнікамі юніёрскага чэмпіянату Еўропы ў ізраільскім Эйлаце, а трое з іх сталі медалістамі турніру.

На пазаспаборніцкім допінг-кантролі 24 лістапада папаліся 18-гадовая **Дар’я Пачобут**, якая стала пазней чэмпіёнкай Старога Свету сярод юніёраў, і 19-гадовы **Іван Клім** (7-е месца на ЧЕ). У беларусаў знойдзены **станазалол**. Непасрэдна падчас спаборніцтваў станоўчыя допінг-пробы былі выяўлены ў 20-гадовай **Вольгі Дрыло** (уладальніца бронзавага медаля на ЧЕ) і 20-гадовай **Віялеты Сячко** (сярэбраны прызёр ЧЕ). У арганізме Дрыло 7 снежня быў зафіксаваны той жа **станазалол**, у Сячко 6 снежня выявілі іншы анаболік — **драстаналон**.

Рашэннем ІВФ увесь квартэт беларускіх цяжкаатлетаў адхілены ад усіх спаборніцтваў тэрмінам на два гады.

Нагадаем, што ў 2012 годзе на беларускіх штангістаў ужо была накладзена дыскваліфікацыя — за ўжыванне **балдэнону** быў пакараны бронзавы прызёр чэмпіянату Еўропы **Міхаіл Аўдзееў**.

— Перад ад’ездам у Ізраіль спартсмены праходзілі допінг-кантроль у незалежнай лабараторыі, усё было нармальна, — распавядае **Валянцін КАРОТКІН**. — Але праз нейкі час даведаліся пра дзве станоўчыя пробы. Пасля чэмпіянату прыйшлі яшчэ дзве “прыемныя” навіны.

**— Дык што адбылося?**

— Хто ж ведае? Ідзе дэталёвае разбіральніцтва. Не думаю, што нехта самастойна вырашыў пайсці на такі крок. Зараз жа, каб спартсмену прыняць нейкія лекі, іх трэба ўзгадняць з урачом. Праўда, некаторыя дадаткова купляюць у спецыялізаваных магазінах рознае спартыўнае харчаванне. Магчыма, адтуль ногі растуць. Можа быць, няякасная партыя тавару, а фірмы, каб палепшыць эфект, дабаўляюць у харчаванне прэпараты, якія забаронены ў спорце? А ў інструкцыі іх не ўказваюць. Зрэшты, усё гэта пакуль версіі, трэба ўсё правяраць.

**— Як надалей пазбегнуць такіх непрыемных сітуацый?**

— Са спартсменамі і трэнерамі мы пастаянна праводзім гутаркі на гэтую тэму, усе ведаюць, чым можа закончыцца ўжыванне забароненых прэпаратаў. Вучым, вучым, а ў выніку...

**— На Федэрацыі допінгавы скандал нейкім чынам адаб’ецца?**

— Штраф дадуць. Наколькі мне вядома, за аднаго спартсмена, якога злавілі на допінгу, нацыянальная федэрацыя плаціць 5 тысяч долараў. У нашым выпадку ўсё трэба памножыць на чатыры.

**Алесь СІВЫ.**

СТАЛІЦА

## Трамвай-кафэ з’явіцца ў Мінску

*Аналагічныя міні-кавярні ёсць у многіх еўрапейскіх гарадах.*

У Мінску такі трамвайчык плануюць размясціць на плошчы Свабоды, непадалёк ад гарадской ратушы. Экстэр’ерныя і інтэр’ерныя работы выканаюць у стылі пачатку XX стагоддзя.

Пра тое, як ідзе падрыхтоўка новага цікавага аб’екта сталіцы, журналістам расказаў галоўны інжынер КУП “Мінская спадчына” **Міхаіл Жых.**

— Кафэ, стылізаванае пад трамвай, абумоўлена гісторыяй горада, яго гістарычнай часткі. Таму што менавіта тут, па былых вуліцах Малой Бернардзінскай і Вялікай Бернардзінскай, па Багадзельнай праходзілі першыя шляхі мінскай конкі. Гэта быў адзін з самых прагрэсіўных відаў транспарту для таго часу. Запрагаліся 2—3 кані, якія везлі вагончык-карэту. У ім размяшчалася ад 8 да 12 чалавек. Улічваючы, што такі від транспарту быў у навіну, на яго чаплялася знадворку яшчэ шмат людзей, а бедныя коні ўсё гэта выцягвалі. Умовы былі вельмі жорсткія з-за таго, што, акрамя верхняга ўчастка горада, далей шлях конкі пралягаў па забалочаным участку — гэта



вуліца Зыбіцкая, і далей — праз драўляны масток — выходзіў да Траецкай гары і да Траецкага манастыра... Бедныя коні стагналі. І калі замест іх прыйшоў новы трамвайчык, ён пайшоў па тым жа маршруце. Таму не аднавіць у памяці людзей гэтую старонку развіцця горада было б несправядліва.



Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск,
вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная:
тэл.
(017) 3286871.
Тэл./факс
рэкламнага
аддзела: (017)
3286904, 3286906
nv@promedia.by
http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya

ISSN 2071-9647

Падпісныя індэксы: 63222, 632222

Заснавальнік
і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч
СЯРЭДЗІЧ

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 29.04.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27170 экз. Заказ №.1542**